

Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!


# БЮЛЯТЭНЬ САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ САВЕЦКАЙ РЭСПУБЛІКІ

Выдаецца Інфармацыйна-Выдавецкім Аддзелам Кіраўніцтва Спраў СНК і Эканамічнай Нарады (г. Менск, Чырвонаармейская вул. № 3). — Падпісная плата на год 5 р. і на 1/2 г. 2 р. 50 к.

VI-ы ГОД ВЫДАНЬНЯ

№ 5 (79) | 1 красавіка 1930 г. | № 5 (79)


## ЗЬМЕСТ.

## Пастановы Эканамічнай Нарады пры Савеце Народных Камісараў БССР.

### Паст. 69. Пра зьмену п. п. 9 і 15 „Правіл сплаву лесу па асушальна-сплаўных каналах і каналізаваных рэчках БССР“.

Эканамічная Нарада пры СНК БССР пастанаўляе п. п. 9 і 15 „Правіл сплаву лесу па асушальна-сплаўных каналах і каналізаваных рэчках БССР“ (Бюл. СНК БССР 1929 г. № 10) запісаць у наступнай рэдакцыі:

„9. Для забясьпечаньня выплаўкі драўніны з каналаў і рэчак дапушчаецца рэгуляваньне ўзроўню вады праз шлюзы, прычым вышыня ўзроўню вады ў гэтых выпадках і тэрмін яго трыманьня не павінны перавышаць гранічнай вышыні і тэрмінаў, што ўстанаўляюцца мясцовымі органамі гідратэхнічнага нагляду па ўзгадненьню з начальнікам сплаву. Калі ёсьць патрэба трымаць ваду звыш гранічнай вышыні і звыш тэрміну, то трэба ў кожным паасобным выпадку ўзгодніць гэта з мясцовым гідратэхнічным наглядам“.

„15. Агульны нагляд за становішчам сплаўных шляхоў, на якія распаўсюджваюцца гэтыя правілы, праводзіцца Н. К. Земляробства.

Усе мерапрыемствы па палепшаньню іх праводзяцца Н. К. Земляробства і яго мясцовымі органамі на падставе плянаў, узгодненых з начальнікам сплаву“.

Нам. Старшыні Савету Народных Камісараў
і Эканамічнай Нарады БССР *К. Бэнэк.*

Нам. Кіраўніка Спраў Савету Народных
Камісараў і Эканамічнай Нарады БССР *Л. Дубавіцкі.*

15 сакавіка 1930 г.
г. Менск.

### Паст. 70. Пра мерапрыемствы для папярэджаньня паломкі піл на лесапільных заводах.

У апошні час наглядаюцца выпадкі паломкі піл на лесапільных заводах з тэй прычыны, што ў піловачным матарыяле пападаюцца мэталёвыя рэчы (цьвікі і інш.).

Для папярэджаньня гэтага Эканамічная Нарада пры СНК БССР пастанаўляе:

1. Абавязаць арганізацыі, якія займаюцца падсочкаю хвоі (Лесахім, лясьніцтвы) устанавіць самы пільны нагляд за тым, каб пасьля сканчэньня падсочкі ў дрэве не заставаліся мэталёвыя рэчы (цьвікі пры зьняцьці казыркоў і інш.) і вызначыць асоб, адказных за выкананьне гэтага нагляду.

2. Асоб, вінаватых у нядбайных адносінах да гэтай справы, прыцягваць да крымінальнай адказнасьці.

3. Абавязаць ВСНГ даць паказаньні лесапільным заводам рэспубліканскай і мясцовай прамысловасьці аб уважлівым аглядзе бярвеньняў, якія ідуць у расьпілоўку, каб папярэдзіць страты ад паломкі піл.

Нам. Старшыні Эканамічнай Нарады БССР *К. Бэнэк.*

Нам. Кіраўніка Спраў Савету Народных
Камісараў і Эканамічнай Нарады БССР *Л. Дубавіцкі.*

15 сакавіка 1930 г.
г. Менск.



## Пастанова Народнага Камісарыяту Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі БССР.

### Паст. 71. Пра талёны да разьліковых ведамасьцяй.

Шэрагам установ не захоўваецца парадак у адносінах талёнаў да разьліковых ведамасьцяй, якія падаюцца страхавальнікамі ў страхавыя касы. Гэта не дае магчымасьці ЦСК ажыцьцявіць установленую ЦСК і ўзгодненую з НК РСІ сыстэму падліку колькасьці і зарплаты асоб наймовай працы. Для зьнішчэньня на будучы час гэтых недахопаў у падачы памянёнай справаздачнасьці, Народны Камісарыят Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі БССР пастанаўляе:

1. Ускласьці на акруговыя органы сацыяльнага страхаваньня:

а) праверку статыстычных талёнаў разьліковых ведамасьцяй у парадку бягучай аперацыйнай працы кас;

б) адказнасьць за дакладнасьць статыстычных талёнаў і своечасовае выпраўленьне памылак, якія сустрэнуцца.

2. Страхавальнікі, якія яднаюць некалькі ўстаноў і прадпрыемстваў, павінны падаваць 2 разы ў год разам з талёнамі разьліковых ведамасьцяй, пералік усіх установ і прадпрыемстваў, якія яднаюцца імі, лік работнікаў па кожнаму з іх, суму заработнай платы належачай ім і месцазнаходжаньне.

3. Зьвярнуць увагу АВК на патрэбу своечасовай падачы РВК сьпісаў установ раёну па форме адваротнага боку талёну.

4. У талёнах разьліковых ведамасьцяй усімі страхавальнікамі, апроч дзяржбюджэтных, абавязкова павінна паказвацца належачая заработная плата, а ня тая, што выплачваецца.

5. Органам дзяржаўнай статыстыкі і Галоўсацстраху сачыць за выкананьнем гэтае пастановы.

Народны Камісар Рабоча-Сялянскай
Інспэкцыі БССР *А. Калнін.*

15 сакавіка 1930 г.
№ 3.

## Пастановы Народнага Камісарыяту Працы БССР.

### Паст. 72. Пра захады да выяўленьня заработку інвалідаў працы.

Для ўпарадкаваньня пытаньня аб падліку заработку інвалідаў працы, працуючых па найму, Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

1) Калі біржы працы пасылаюць інвалідаў працы на работу, яны павінны рабіць адпаведныя адзнакі на пэнсійных кніжках.

2) У тых выпадках, калі прадпрыемствы альбо ўстановы прымаюць інвалідаў працы на работу беспасрэдна (г. зн. не праз біржы працы), адпаведныя адзнакі на пэнсійных кніжках з паказаньнем атрыманай заработнай платы робяцца адпаведным прадпрыемствам альбо ўстановай.

3) Кіраўнікі прадпрыемстваў і ўстаноў, якія парушаюць гэтую пастанову, прыцягваюцца да адказнасьці ў адміністрацыйным парадку, у адпаведнасьці з пастановай ЦВК і СНК БССР за I/IX — 1928 г. (З. З. БССР 1928 г., № 26, арт. 257; 1929 г., № 16, паст. 87).

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *П. Саламонаў.*

7 сакавіка 1930 г.
№ 18.

### Паст. 73. Пра адборачныя камісіі пры біржах працы па пасылцы на работу мэдыцынскага пэрсаналу.

Народны Камісарыят Працы БССР прапануе:

1. Конкурсныя каміссіі, арганізаваныя паводле пастановы НКП і НКАЗ за 5 сакавіка 1928 г. № 11 (Бюл. СНК 1928 г., № 3) для запрашэньня лекарскага пэрсаналу і зубных дактароў на вакантныя пасады ліквідаваць.
2. Усю працу па пасылцы на работу мэдыцынскага пэрсаналу згрупаваць на біржах працы.
3. Пасылка на работу мэдыцынскага пэрсаналу, апроч высокакваліфікаваных спэцыялістых (напр., кансультантаў) і адміністратараў, павінны рабіцца адборачнымі камісіямі, якія арганізуюцца пры біржах працы ў складзе прадстаўніка біржы працы (старшыня), прадстаўніка акруговага інспэктарыяту аховы здароўя і Прафэсійнага Саюзу Мэдсанпрацы.
4. Адборачныя камісіі пры пасылцы павінны выяўляць спэцыяльнасьць і кваліфікацыю, да якой належыць асоба, што пасылаецца.

Пры пасылцы на работу адборачныя камісіі павінны кіравацца чыннымі палажэньнямі аб клясавым адборы (абежнік НКП СССР за 19/XII-1929 г. № 360 „Изв. НКТ“ 1929 г. № 48-49), прычым пры іншых роўных умовах кандыдатур перавага павінна давацца асобам, якія працавалі ў раёне ня менш 3-х гадоў.

5. З выданьнем гэтага абежніку касуецца палажэньне пра конкурсныя камісіі (Бюл. СНК 1928 г. № 3).

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *П. Саламонаў.*

Ст. Інспэктар па Рэгуляваньню Рынку
Працы НКП БССР *Радзівонаў.*

Узгоднена з НК Аховы Здароўя — адносьнік за 14 сакавіка 1930 г. № 10.

Узгоднена з ЦП Саюзу Мэдсанпрацы—адносьнік за 13 сакавіка 1930 г. № 26/0.

20 сакавіка 1930 г.
№ 19.

### Паст. 74. Пра скасаваньне пастановы за 20 лютага 1930 г. № 13 „Пра льготы для членаў гарадзкіх саветаў, якія пасылаюцца на сталую работу ў вёску для ўзмацненьня сельскіх саветаў“.

У сувязі з тым, што пытаньне аб льготах для рабочых, якія пасланы ў вёску для работы ў сельскіх саветах рэгулюецца пастановамі ЦВК і СНК СССР за 16 сакавіка 1930 г. („Изв. ЦИК СССР и ВЦИК“

за 17/III-1930 г.) і ЦВК і СНК БССР за 17 сакавіка 1930 г. („Сав. Беларусь“ за 18/III-1930 г. № 64) Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе скасаваць сваю пастанову за 20/II-1930 г. № 13 („Савецкая Беларусь“ за 22/II-1930 г. № 44.).

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *П. Саламонаў.*

20 сакавіка 1930 г.
№ 20.

## Пастановы Народнага Камісарыяту Земляробства БССР.

### Паст. 75. Пра мерапрыемствы па ўпарадкаваньню местачковай беднаты.

*Усім акр. зям. аддзелам, АВК і РВК БССР.*

У працэсе правадзімай сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі і пашыраючагася тэмпу ахопу суцэльнай калектывізацыяй цэльных раёнаў зьмяняюцца мэтады і формы работы па гаспадарчаму ўпарадкаваньню бядняцкага насельніцтва мястэчак і ўцягненьню бядняцкага працоўнага яўрэйскага насельніцтва ў вытворчую працу.

У сувязі з гэтым, уся работа па гаспадарчаму ўпарадкаваньню бядняцкага насельніцтва мястэчак (як гарадзкога так і сельскага тыпу), павінна быць увязана з правадзімай калектывізацыяй раёнаў.

Для гэтага прапануецца:

1. Пры правядзеньні суцэльнай калектывізацыі бядняцкае местачковае насельніцтва павінна на агульных з усім іншым насельніцтвам раёну падставах уключацца ў арганізаваныя і тыя, што арганізуюцца, калгасы.

2. У адпаведнасьці з гэтым трэба ўстанавіць тыя катэгорыі асоб, якія на падставе маючыхся дырэктыў маюць права і падлягаюць упарадкаваньню, гэта значыць: у першую чаргу працоўнае бядняцкае насельніцтва, не пазбаўленае выбарных правоў, а затым бядняцкая частка лішэнцаў (у тым ліку і былыя дробныя гандляры), якія раней не эксплёатавалі наймовай працы і не належаць да служнікаў рэлігійнага культу.

3. Пры правядзеньні суцэльнай калектывізацыі выявяцца катэгорыі асоб, якія пры новых умовах будуць пазбаўлены магчымасьці прыстасаваць сваю працу ў калгасах (саматужнікі-адзіночкі, якія працуюць на дэфіцытнай сыравіне, балаголы, карабейнікі, а часткова і служачыя). Таму трэба азначаныя катэгорыі асоб выявіць і ўключыць іх у агульны кантынгэнт асоб, што падлягаюць упарадкаваньню.

4. Усё падлягаючае ўпарадкаваньню местачковае насельніцтва павінна быць уключана ў першую чаргу ў калгасы, арганізаваныя, альбо тыя, што арганізуюцца як у самых мястэчках, так і вакол іх. Калі-ж гаспадаркі (калгасы) па прычыне малазямельля ня змогуць прыняць у свой склад усяго падлягаючага ўпарадкаваньню местачковага насельніцтва, дык патрэбна праводзіць расьсяленьне па іншых калгасах раёну з тым, каб усё падлягаючае ўпарадкаваньню местачковае насельніцтва было-б абавязкова ўцягнута ў калгасы. Пры гэтым трэба імкнуцца разьмясьціць местачковае яўрэйскае насельніцтва па калгасах раёну больш кампактна для таго, каб стварыць лепшыя ўмовы да іх культурна-бытавога абслугоўваньня.

5. У раёнах вострага малазямельля, где пры правядзеньні суцэльнай калектывізацыі патрабуецца перасяленьне трэба, ўлічыць і тую колькасьць местачковага насельніцтва, якое падлягае перасяленьню на калёнізацыйныя фонды як у межах БССР, так і па-замежамі яе.

6. Выходзячы з наяўнасьці ў мястэчках вялікай колькасьці сем'яў з недастатковай колькасьцю працаздольных членаў, трэба калгасам, што арганізуюцца ў мястэчках, даць такі напрамак (альбо арганізаваць пры іх адпаведныя гаспадарчыя галіны), які-б забясьпечыў уцягненьне, наколькі магчыма большага ліку жанчын і малапрацаздольных асоб.

7. Улічваючы адсутнасьць належных с.-г. навыкаў у асноўнай масы яурэйскай местачковай беднаты, якая накіроўваецца ў калгасы, трэба ўжыць усе захады для правільнай арганізацыі працы ў час пасеўнай кампаніі, ставячы задачай максымальнае скарыстаньне працоўнай сілы ўключанай у калгасы яўрэйскай беднаты.

8. Правядзеньне ўсёй гэтай работы ўскладзецца на акруговыя і раённыя выканаўчыя камітэты. У тых мясцох, дзе калектывізацыя ўжо праведзена альбо праводзіцца, памянёныя органы павінны праверыць праведзеную работу па ўпарадкаваньню местачковага насельніцтва і даць ёй належны напрамак.

Разам з гэтым прашу старшынь АВК пасьля атрыманьня гэтага ліста безадкладна паставіць на абгаварэньне АВК пытаньне аб парадку і мэтадах правядзеньня гэтай работы, маючы на ўвазе патрэбу ўвязкі яе як па тэрмінах, так і па арганізацыйных формах, з агульнай працай па калектывізацыі і па падрыхтоўцы да вясеньняй сяўбы.

9. Для падліку правадзімай работы належыць кіравацца разасланымі для гэтага формамі, якія павінны запаўняцца па кожнаму местачковаму пункту асобна, прычым 1 экзэмпляр па выкананьні работы трэба накіраваць у АКРЗА, а другі адначасова ў Наркамзем.

Упаўнаважаны СНК БССР па гаспадарчаму ўпарадкаваньню мястэчак—Народны Камісар Земляробства БССР *П. Рачыцкі.*

9 сакавіка 1930 г.
№ 21.

**Паст. 76. Пра дазвол Белкахотсаюзу здабыць жывымі 5 пар баброў і 40 штук дзікіх коз.**

Народны Камісарыят Земляробства БССР пастанаўляе дазволіць Белкахотсаюзу для задавальненьня патрэб у племянным матарыяле пры арганізацыі выхавальнікаў пушнога зьвераводзтва, а таксама для падсадкі зьвера ў культурныя гаспадаркі і экспаніраваньня на Ўсебеларускай і Міжнароднай (у Лейпцыгу) выстаўках здабыць жывымі 5 пар баброў і 40 штук дзікіх коз (касуль).

Баброў, якія будуць экспанавацца на Міжнароднай выстаўцы ў Лейпцыгу, пасьля выстаўкі зьвярнуць у бабровы выхавальнік Белкахотсаюзу, як племянны матарыял.

Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР *Паніматка.*

Член Калегіі НКЗ БССР *І. Пятрушын.*

10 сакавіка 1930 г.

## Пастанова народных камісарыятаў Унутраных Спраў і Фінансаў БССР.

### Паст. 77. Пра парадак разьмеркаваньня маемасьці пры ліквідацыі дамоў рэлігійных культаў.

*Адміністрацыйным аддзелам АВК, Віцебскаму Гарсавету, РВК Віцебскай акругі і акруговым фінансавым аддзелам.*

У апошні час па хадайніцтвах рабочых і сялян зачыняецца і ліквідуецца шэраг дамоў рэлігійных культаў.

У зачыняемых і ліквідуемых дамох рэлігійных культаў маецца культавая маемасьць, парадак рэалізацыі якой дакладна ня вызначаны. Сярод маемасьці маецца такая, якая складае дзяржаўны фонд і павінна рэалізавацца праз мясцовыя фінансавыя органы паводле тлумачэньня НКФ СССР.

Таму, народныя камісарыяты Унутраных Спраў і Фінансаў БССР прапануюць:

1. Пры зачыненьні і ліквідацыі дамоў рэлігійных культаў, культавую маемасьць разьмяркоўваць наступным чынам:

а) усе прадметы з плаціны, золата, срэбра і парчы, а таксама каштоўныя каменьні залічаць у дзяржаўны фонд і перадаваць у распараджэньне фінансавых органаў для далейшай перадачы і рэалізацыі іх Дзяржбанкам;

б) мастацкія і музэйныя каштоўнасьці перадаваць органам НК Асьветы;

в) іншыя прадметы, як: званы, мэблю, каўры, люстры і г. д. залічаць у дзяржфонд і перадаваць фінансавым органам для рэалізацыі.

2. Прыём маемасьці прадстаўнікамі фінансавых органаў праводзіць па падрабязных сьпісах.

3. Па прыёме маемасьці фінансавым органам прымаць захады да яе аховы, прычым:

а) маемасьць, пералічаную ў п. „а“ арт. 1 гэтага абежніку, здаваць у касы Дзяржбанку;

б) іншую маемасьць хаваць у памяшканьнях фінансавых органаў, альбо па месцы яе знаходжаньня, пры ўмове апячатаньня і здачы яе на хаваньне вызначаным для гэтага асобам;

в) пасьля прыёму маемасьці фінансавым органам рабіць ацэнку, а затым рэалізацыю яе перадачаю яе за плату дзяржаўным і кааперацыйным установам. Званы перадаваць за плату Рудмэтальгандлю.

4. Сумы, выручаныя ад рэалізацыі маемасьці, за вылікам сум, што патрачаны на рэалізацыю, уносіць у даход дзяржавы і залічаць па § 42 арт. 2 даходнай клясыфікацыі 1929/30 г. з залічэньнем 50% у мясцовыя сродкі.

5. Будынкі рэлігійных дамоў перадаваць у распараджэньне мясцовых саветаў і выканаўчых камітэтаў па належнасьці.

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных Спраў БССР *Я. Кроль.*

Нам. Народнага Камісара Фінансаў БССР *Л. Бунін.*

9 сакавіка 1930 г.
№ 3225—3.

## Пастанова Вышэйшага Савету Народнае Гаспадаркі БССР.

### Паст. 78. Пра абавязковую праверку і кляйменьне электралічыльнікаў і трансфарматараў да іх.

На падставе пастановы Эканамічнай Нарады пры СНК БССР за 27/VII-1929 г. і загаду ВСНГ СССР за 18/II-1929 г. № 437, загадваю:

1. Правесьці на тэрыторыі БССР праверку і кляйменьне электралічыльнікаў і трансфарматараў да іх.

2. Праверцы і кляйменьню падлягаюць усе электралічыльнікі і трансфарматары да іх, якія зусім не правяраліся і ня маюць кляйма Палаты Мерак і Вагаў, а таксама і тыя, якія правяраліся ў 1926 і 1927 гадох.

3. Праверка электралічыльнікаў і трансфарматараў да іх ускладаецца на Беларускую Палату Мерак і Вагаў і павінна быць скончана не пазьней 1 студзеня 1931 г.

4. Электралічыльнікі і трансфарматары да іх, што падлягаюць праверцы, павінны зьнімацца мясцовымі электрастанцыямі (за асобную плату кліентаў) і прадстаўляцца Беларускай Палаце Мерак і Вагаў для праверкі і кляйменьня.

У в а г а. Праверка і кляйменьне электралічыльнікаў і трансфарматараў да іх па акругах БССР праводзіцца Палатай Мерак і Вагаў на месцы, для якой мэты мясцовыя электрастанцыі павінны прадставіць Палаце адпаведнае памяшканьне.

5. Збор за праверку і кляйменьне электралічыльнікаў і трансфарматараў да іх праводзіцца паводле таксы ВСНГ і НКФ СССР.

6. Нагляд за выкананьнем гэтай пастановы ўскладаецца на Беларускую Палату Мерак і Вагаў і мясцовыя электрастанцыі.

7. Асобы, вінаватыя ў невыкананьні гэтага загаду, прыцягваюцца да крымінальнай адказнасьць паводле арт. 154 КК БССР.

Нам. Старшыні Вышэйшага Савету
Народнай Гаспадаркі БССР *Стракоўскі*

Сакратар ВСНГ БССР *Ізакаў*.

19 сакавіка 1930 г.
№ 258.




Адказны Рэдактар **С. Лодысеў.**

Друкарня Беларускае Акадэміі Навук. Зак. № 2935. Галоўлітбел № 1572. Тыраж 5000 экз.